Ідэі для Беларусі №1

НАРОДНАЯ ПРАГРАМА

www.prahrama.by



# НП для мясцовых выбараў

**Стартаваў чарговы, прымеркаваны да мясцовых выбараў 23 сакавіка 2014 году, этап «Народнай праграмы» - ініцыятывы па выпрацоўцы «дарожных мапаў» рэформаў у розных галінах, якія складаюцца з дапамогай экспертнага і грамадскага абмеркавання.**

У выніку сацыялагічнага апытання на замову Руху «За Свабоду» былі вызначаны восем праблемных тэмаў, якія хвалююць грамадзян Беларусі – патэнцыйных выбаршчыкаў. Гэта паводле працоўных назваў – «Працэдура і ўмовы прыватызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў»; «Якім чынам павінны прымацца рашэнні аб будаўніцтве шкодных вытворчасцяў?»; «Захады па павышэнні якасці паслуг у галіне ЖКГ»; «Ці варта абіраць кіраўнікоў выканаўчай улады адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі усеагульным галасаваннем жыхароў гэтай адзінкі?»; «Рэформа сістэмы сярэдняй адукацыі»; «Неабходныя меры па развіцці прыватнага прадпрымальніцтва»; «Якія меры неабходныя для хутчэйшага вырашэння жыллёвай праблемы ў Беларусі?»; «Прыватная ўласнасць на зямлю».

Эксперты па кожнай з гэтай тэмаў рыхтуюць свой аналіз сітуацыі ў адпаведнай галіне і прапановы па рэфармаванні. Некалькі тэмаў – у тым ліку «Выбарнасць мэраў» і «Прыватная ўласнасць на зямлю» – ужо выкладзеныя на сайт ініцыятывы prahrama.by для абмеркавання ўсіх зацікаўленых




асобаў. Адбыліся і два круглыя сталы з удзелам іншых экспертаў, прысвечаныя рэформе мясцовага самакіравання і зямельнай рэформе. Апрача інтэрнет-абмеркаванняў і экспертных круглых сталоў, выдадзены бюлетэнь, які вы цяпер трымаеце ў сваіх руках і які разасланы ў профільныя рэспубліканскія і мясцовыя ведамствы, а таксама іншым прадстаўнікам улады.

На канчатковым этапе тэзісныя прапановы па згаданых праблемах увойдуць у праграмы кандыдатаў у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Мяркуецца, што да выбаршчыкаў, выкарыстоўваючы планы рэформаў «Народнай праграмы» з лакальнай адаптацыяй, звернуцца бліжэйшымі месяцамі каля 270 кандыдатаў.

Першы намеснік Руху «За Свабоду», каардынатар «Народнай праграмы» **Юрась Губарэвіч** кажа, што яна не ёсць платформай толькі для кандыдатаў, блізкіх да Руху ці партнёрскіх структур: *«Народная праграма» адкрытая і даступная для выкарыстання ўсім ахвотным, хто стаіць на рэфармісцкіх пазіцыях. Напрыклад, на парламенцкіх выбарах 2012 году «Народная праграма», дакладней распрацаваныя ў яе межах каля 30 накірункаў, стала грунтам для праграмаў 49 кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў – то бок, на палове выбарчых акругаў».*

*«Мы разлічваем на тое, што кандыдаты, якія скарыстаюцца напрацоўваннямі «Народнай праграмы», будуць мець магчымасць на якасным экспертным узроўні даваць адказы на пытанні сваіх выбарнікаў. Тым самым яны павысяць свой аўтарытэт у вачах выбарнікаў, і, натуральна, атрымаюць большую падтрымку»,* – падкрэслівае Юрась Губарэвіч, які дарэчы, у свой час перамагаў навыбарах у Белаазёрскі савет дэутатаў.

*«Трэба дэманстраваць, што ёсць пазітыўная альтэрнатыва. І для гэтага прыдатныя і мясцовыя выбары, і прэзідэнцкія выбары, нават калі няма падліку галасоў. Людзі павінны пераканацца, што ёсць на каго паставіць»,* – кажа кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2006, былы намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму **Аляксандр Мілінкевіч**.

► P.S. Ініцыятары “Народнай праграмы” звяртаюцца да ўсіх зацікаўленых асобаў далучацца да абмеркавання самых розных тэмаў на сайце prahrama.by. Ахвотныя да ўдзелу ў круглых сталах разам з экспертамі могуць пісаць на гэты конт на info@pyx.by ці патэлефанаваць на нумар (+37517)2808863. Пошта: 220005, Мінск, а/с 148. Давайце разам працаваць над планамі рэформаў для лепшай Беларусі.



# Прыватная ўласнасць на зямлю

**Каму павінна належаць зямля ў Беларусі? Як правесці зямельную рэформу? Свае варыянты прапануюць эканамісты Міхаіл Залескі і Пётр Мігурскі.**



## Рэферэндум аб рэстытуцыі

Прыватная ўласнасць выконвае індывідуальныя, сямейныя і грамадскія функцыі і павінна заставацца апірышчам грамадскага ладу. Таму выключэнне зямлі з кола аб'ектаў прыватнай уласнасці не можа лічыцца нормаю.

Прыватная ўласнасць на зямлю выступае як крыніца абавязацельстваў грамадзяніна перад сям'ёю і грамадствам. Дзеля гэтага прыватная ўласнасць на зямлю павінна знаходзіцца пад абаронаю дзяржавы.

Стан маралі і грамадства, які гістарычна склаўся ў Беларусі, непазбежна выкліча спробы злоўжывання прыватнай уласнасцю на зямлю. Неабмежаванае выкарыстанне зямлі павінна быць забаронена адпаведнымі законамі. Базавым абмежаваннем на права валодання зямлёю ёсць прыналежнасць да нацыі і дзяржавы, як тое, напрыклад, патрабуецца ад кандыдата ў прэзідэнты Беларусі.

Паколькі падзеі апошніх ста гадоў у Беларусі канчаткова заблыталі размеркаванне земляў, што ўскладняе пытанне вызначэння законных уласнікаў, неабходна стварэнне нацыянальнай Камісіі па аграрнай рэформе. На працягу пяці гадоў камісія павінна правесці поўны улік размеркавання і выкарыстання карысных земляў і




стварыць Рэестр, у каторым будзе зацверджаны сыходны стан (на дату завяршэння работы Камісіі) і распрацаваны парадак адлюстравання наступных змяненняў, што тычыцца межаў і ўласнікаў земляў.

Пасля завяршэння ўліку па ініцыятыве Камісіі на нацыянальны рэферэндум выносіцца пытанне аб рэстытуцыі ў наступнай фармулёўцы: «Зямля, каторую адабралі ў сялян для стварэння «колхозов», «совхозов», «госхозов» і іншых мэтаў СССР, БССР, Рэспублікі Беларусь, павінна быць вернута ўласнікам альбо іхнім спадкаемцам?» Адказы: «Так», «Не».

У залежнасці ад вынікаў рэферэндуму ствараецца:

- пры станоўчым адказе бальшыні дзяржаўнае Агенцтва па рэстытуцыі, каторае на працягу 20 год прымае дакументальна пацверджаныя прэтэнзіі заяўнікаў і ажыццяўляе дапамогу ў пошуку і афармленні адпаведных дакументаў;

- пры адмоўным адказе бальшыні адначасова з Агенцтвам па рэстытуцыі дзяржаўнае Агенцтва зямельнага рэестру, каторае бестэрмінова ўлічвае межы і ўласнікаў земляў і выдае адпаведныя дакументы.

Асноваю для сельскагаспадарчай дзейнасці павінна зрабіцца сямейная ўласнасць.

Дзеля выключэння здрабнення зямельных надзелаў ствараецца дзяржаўнае Агенцтва па выкарыстанні Зямельнага рэзерву, што кантралюе створаны з ліку неприватызаваных земляў сельскагаспадарчага прызначэння Зямельны рэзерв, вытворчасць на якім могуць весці на правах арэнды прадпрыемствы ўсіх формаў уласнасці і нерэзідэнты.

Ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку ствараюцца інструменты зямельнага рынку. Да поўнага завяршэння аграрнай рэформы сельскагаспадарчую дзейнасць бесперашкодна ажыццяўляюць наяўныя на дату пачатку рэформы гаспадаркі ўсіх формаў уласнасці ў межах дзейнага заканадаўства.

**Міхаіл ЗАЛЕСКІ**





# Тормаз – калгасная сістэма

Нягледзячы на высокі ўзровень датацый, які складае 60% пры сусветным узроўні ў 20-30% ад кошту валавой прадукцыі, доля сельскай гаспадаркі ў ВУП за папярэднія 5 гадоў знізілася ў Беларусі на 5,1%.

Пры гэтым значная частка беларускай прадукцыі нават з улікам вялікіх датацый каштуе даражэй, чым еўрапейская, канкурэнтаздольная на абмежаваных рынках, а экспарт яе ў цэлым стратны.

Амаль 90% сельскагаспадарчых арганізацый з'яўляюцца стратнымі, запазычанасць у сельскай гаспадарцы на 01.10.2013г. складае больш за 76 трлн. рублёў, або ў 1,7 раза перавышае грашовую выручку ад рэалізацыі, што робіць праблему вяртання даўгоў невырашальнай. Працягваецца адток высокакваліфікаваных кадраў з вёскі, перш за ўсё, спецыялістаў, у выніку чаго шматлікія негатыўныя тэндэнцыі ў сельскай гаспадарцы могуць набыць незваротны характар.

Штогадовыя невытворчыя страты (мор жывёлы, нізкая якасць прадукцыі, перарасход кармоў, нізкая акупнасць матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў) складаюць фантастычную суму – да 5 млрд. даляраў, што з'яўляецца найважнейшым аргументам што да нізкай эфектыўнасці дзяржаўнай палітыкі ў Беларусі ў сельскай гаспадарцы.

Прычынай стратнасці сельскай гаспадаркі Беларусі з'яўляецца адсутнасць палітычнай волі ў кіраўніцтва краіны па пераўтварэнні сістэмы аграрных адносін, стаўка на захаванне




калгасна-саўгаснай сістэмы, кан'юнктурныя дзеянні ўладных структур усіх узроўняў, што заканамерна прывяло да дэградацыі ролі асобы ў сельскай гаспадарцы.

Асноўны тормаз для развіцця сельскай гаспадаркі – існуючая форма уласнасці: сёння ў краіне няма эфектыўнага ўласніка (95% зямлі належыць дзяржаве), які мог бы ў масавым парадку кіраваць галіной. Варта заўважыць, што фермерскія гаспадаркі маюць рэнтабельнасць на 40% вышэй, чым дзяржаўныя сельскагаспадарчыя арганізацыі.

Здавалася б, прыватная форма ўласнасці на зямлю як асноўны сродак вытворчасці і павінна вызначаць эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці. Тым не менш, фарсіраванне прыватызацыі зямлі ў Беларусі, да чаго заклікаюць многія эксперты, пытанне дыскусійнае.

Вопыт розных краін пацвярджае вызначальную ролю ў матывацыі дзейнасці не столькі уласнасці на зямлю, колькі формаў гаспадарання на ёй. У Даніі і Галандыі самымі эфектыўнымі з'яўляюцца дзяржаўныя сельскія гаспадаркі, у Ізраілі – дзяржаўна-кааператыўныя прадпрыемствы, у Кітаі дробнатаварная сялянскае гаспадарка зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў забеспячэнні насельніцтва харчаваннем. У той жа час у Літве атрымалі зямлю ўсе жадаючыя, але не ўсе сталі вытворцамі прадукцыі.

Сучасная гісторыя паказвае, што функцыянуючыя сельскагаспадарчыя вытворчасці на правах уласнасці або арэнды па эфектыўнасці практычна не адрозніваюцца адзін ад аднаго, калі іншыя фактары ў іх аднaзначныя. Галоўным тут з'яўляецца не ўласнасць, а права ўласнасці на канчатковыя вынікі вытворчай дзейнасці – права распараджэння выробленай прадукцыяй і атрыманай ад яе рэалізацыі выручкай.

Сёння прыватная ўласнасць у сельскай гаспадарцы Беларусі знаходзіцца ў зачаткавым стане, хоць дзяржава як уласнік не можа забяспечыць дастатковую эфектыўнасць вытворчасці. Фермерскія ж гаспадаркі не маюць роўнага з дзяржаўнымі сельскагаспадарчымі арганізацыямі доступу да рэсурсаў, свабоды выбару рынкаў, абмежаваныя ў фінансаванні вытворчай дзейнасці, і, натуральна, яны не могуць канкураваць з дзяржаўнымі калгасамі і саўгасамі.

Рэфармаванне аграрных адносін у Беларусі павінна адбывацца ў рэчышчы структурных пераўтварэнняў у цэлым у эканоміцы і ўяўляць сабой комплекс палітычных і юрыдычных рашэнняў, а таксама эканамічных мер з мэтай поўнай рэалізацыі ўнутранага патэнцыялу сельскай гаспадаркі.

**Пётр МІГУРСКІ**

# Народ гаворыць!

**На тэму зямельнай, аграрнай рэформы свае меркаванні выказалі і простыя людзі (на форуме «Народнай праграмы», у мэйлах да каардынатараў, падчас вулічных відэаапытанняў, якія выкладаюцца на сайце ініцыятывы).**

**Меркаванні з рознай ступенню абгрунтаванасці і эмацыйнасці**:

● *Павінны быць саўгасы (якія паказалі сваю эфектыўнаць і ў якіх людзі згодны працаваць), калгасы (калектыўныя гаспадаркі, якія людзі падтрымліваюць і згодны ў іх працаваць). Але асноўная колькасць зямлі павінна знаходзіцца ў руках землеўладальнікаў пры розных формах уласнасці. Заканадаўча таксама павінна быць абмежавана колькасць зямлі ў аднаго фермера. Зямля, як і прадпрыемствы, прадаюцца толькі тым, хто нарадзіўся тут, альбо з'яўляецца беларусам па продках.*

Працяг на с.4



# Народ гаворыць! (працяг)

**Пачатак на с.3**

*Іншаземным грамадзянам продаж зямлі варта дазволіць у абмежаванай колькасці (напрыклад, не болей 5% ад агульнай абшараў).*

*Якая рэстытуцыя!!! Ці праблемаў мала ў краіне? Я ўжо не кажу пра сумневы ў празрыстасці працэдур, наяўнасці сапраўдных дакументальных доказаў. Беларусь некалькі стагоддзяў жыла пад акупацыяй з перадзелам земляў: адкуль адлічваем рэстытуцыйны стартавы час? І сацыяльны выбух гарантаваны! Гэта загадзя паразны рэферэндум!*

*Землю стоит раздавать-продавать с условием ее сельскохозяйственного использования. По крайней мере, ценные земли на больших площадях. И в первую очередь, белорусам.*

*Почему бы не дать людям землю хотя бы на правах аренды, допустим лет на 50, если они смогут извлечь из этого большую эффективность? Я считаю, что каждому участку землю нужно присвоить его целевое использование, а затем уже его продавать или давать право аренды. Только так и тогда любой человек, который купит землю, будет использовать ее надлежащим образом, в противном случае он может потерять право на землю!*

*Поддерживаю эволюционные идеи Мигурского П.С. У каждого из нас есть право на аренду земли. Воспользуйся им и покажи на что способен, а потом можно и о собственности мечтать.*

*Должна быть и частная собственность, и государственная. Фермер – настоящий хозяин, который сделает, как надо, чтобы был порядок А государство может что-то недовыполнить или совать миллиарды непонятно куда, в эти колхозы.*





*На першым этапе прыватызацыі грамадзяне могуць адчуць недавер, бо столькі разоў ужо падманвалі. Таму яе трэба раздаць (паі зямель сельгасвытворчасці), і пэўны перыяд, пакуль не складзецца рынак, пераход права на распараджэнне уласнасцю замарозіць. Наш зямельны рынак не сфармуецца хутка і прыспешваць гэты працэс вялікага сэнсу няма.*

*Сама па сабе наша зямля вялікіх грошай не дасць: не чарназём, карысных выкапняў небагата, радыяцыя. Толькі працай можна рэальна ўзняць яе кошт. Прадаваць зямлю інвестарам (незалежна нутраным ці вонкавым) без сфармаванага рынку – толькі множыць спекуляцыі і сацыяльную напругу.*

*Частная собственность – основа любой экономики. Где нет частной собственности – нет экономики, есть только пародия, вроде белорусского чуда-юда. Стенания по поводу того, что раскупят иностранцы, расхватают, загадят и прочее – вершина невежества и галиматьи социалистов.*

*Если человек не сможет продать землю, то есть будет владеть только доходом от ее использования, а не капитальной стоимостью, то возникнет сверхэксплуатация и нерациональное использование земли.*

*Вопрос, таким образом, может стоять лишь в принципах, на которых земля станет частной собственностью.*

*Субсидии сельскому хозяйству, национальные программы развития сельского хозяйства надо забыть: потратив рубль на субсидии сельскому хозяйству, мы отбираем рубль у других людей, которые вложили бы свой рубль и получили бы три рубля отдачи. Даровая поддержка сельскому хозяйству приведет к хронической неэффективности этой отрасли, и систематическому ограблению всех остальных. Если тебя поддерживают несмотря на работу с нулевым результатам – зачем работать хорошо вообще?*

*Кто-нибудь может предложить эффективный механизм приватизации земли? Такой, чтобы можно было максимально нивелировать связанные с приватизацией неизбежные риски вроде коррупции и т.п.? Мелькнула мысль по поводу выпуска своего рода «ваучеров» на землю, пропорционально количеству граждан на территории на момент проведения реформы. Но проводить ли подобное только с землями аграрного назначения? Или со всей территорией страны? Если со всей, то как быть с городскими землями? Если только с сельхозугодьями, то будет ли иметь вес при приватизации балл качества? Имеет ли смысл запретить участвовать в приватизации гражданам, которые недостаточно долго проживают на территории РБ?*

*Вопросов больше, чем ответов :(*



MAREK SAMOJEDEN





# Выбарнасць мэраў



**Уладзімір Навасяд, былы, у 2000-2004 гадах, дэпутат Палаты прадстаўнікоў, а цяпер старшыня аркамітэта па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу, якія даўно займаецца праблемамі рэформы мясцовага самакіравання,стаіць на тым, што “мэр павінен выбірацца народам!” А знаны спецыяліст у гэтай галіне Міраслаў Кобаса, кіраўнік Фонда імя Льва Сапегі, кажа пра дзве небяспекі, што тояцца ў выбарнасці старшыняў выканкамаў. Прапануем да вашай увагі іх развагі.**

# Самакіраванне - гарантыя свабоды

Заканадаўства Беларусі вызначае статус мясцовага самакіравання (Рады) як «прадстаўнічы дзяржаўны орган».

Выканаўчыя органы выведзены з сістэмы мясцовага самакіравання і перападпарадкаваны прэзідэнту. Па сутнасці, дзейнічае не мясцовая ўлада, а прадстаўнікі дзяржаўнай улады на месцах.

У гэтай «вертыкалі ўлады», як у кроплі вады, адлюстраваліся гены «саўдэпіі», якія апынуліся надзіва жывучымі. У заканадаўствах еўрапейскіх краінаў не знайсці падобных прыкладаў.

Ва ўмовах станаўлення беларускай незалежнасці мясцовае самакіраванне з’яўляецца найважнейшай стабілізуючай інстытуцыяй усёй дзяржавы.

Самакіраванне ёсць найважнейшай умовай гарантый правоў і свабод грамадзян.

Для станаўлення мясцовага самакіравання неабходна зрабіць за адзін раз комплекс рашэнняў, а менавіта:

- Змяніць статус мясцовага самакіравання, вывесці яго з сістэмы дзяржаўнай улады.
- Ажыццявіць пераход ад трохузроўневай сістэмы самакіравання (абласныя саветы, раённыя і першасныя) да двухузроўневай (раённыя і сельскія саветы).



► У Беларусі, па сутнасці, дзейнічае не мясцовая ўлада, а прадстаўнікі дзяржаўнай улады на месцах

- Правесці рэформу АТД (адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення) з тым, каб зрабіць сістэму мясцовага самакіравання больш кампактнай, менш затратнай, больш эфектыўнай і залежнай ад мясцовага насельніцтва.
- Пераразмеркаваць фінансы ад абласных бюджэтаў да бюджэтаў гарадскіх, раённых і сельскіх. Улада і грошы – тым, хто бліжэй да праблем грамадзян!

► Павінны быць прамыя выбары мэраў гарадоў, кіраўнікоў адміністрацый!

- Мэр павінен выбірацца народам! Павінны быць прамыя выбары кіраўнікоў (мэраў) гарадоў, кіраўнікоў адміністрацый!

Палітыка дэцэнтралізацыі ўлады, стварэнне рэальнага самакіравання ў Рэспубліцы Беларусь у перспектыве будуць з’яўляцца адной з самых складаных задач на парадку палітычнага календара, дэмакратычных партый, якую трэба будзе вырашыць разам з грамадзянскай супольнасцю.

Асаблівасцю дадзенай рэформы з’яўляецца тое, што яна закранае шырокія пласты кіраўнікоў, якія не бачаць сябе ў новай сістэме ніякіх перспектыў.

Станаўленне мясцовага самакіравання ў Беларусі – працэс непазбежны. Наша задача – паскорыць гэты працэс.

**Уладзімір НАВАСЯД**



# Кішэня, а не людзі?

Свабодныя і дэмакратычныя выбары старшыняў выканкамаў маглі б у нейкай ступені памяняць існуючы парадак і, магчыма, прымусілі б улады прыслухацца да меркавання грамадзян і ўлічваць яго пры прыняцці рашэнняў.

Аднак не ўсё так проста, як здаецца. У гэтым варыянце таксама ёсць свае слабыя месцы.

Ці змогуць змяніць што-небудзь у лепшы бок выбары старшыні выканкама, калі яны будуць праходзіць гэтак жа, як цяпер выбары дэпутатаў? Не, вядома! Таму што выберуць тых жа, каго сёння прызначаюць ці заўтра плануюць прызначыць.

Больш за тое, у выпадку дрэннай працы выканкама заўсёды можна будзе папракнуць грамадзян – маўляў, вы ж самі выбіралі, чаго цяпер жаліцеся? Цярпіце, як мінімум, 4 гады!

Ва ўмовах цэнтралізаванай сістэмы кіравання на мясцовым узроўні існуе вялікая фінансавая залежнасць мясцовых уладаў ад цэнтра.

Акрамя таго, камунальная ўласнасць у Беларусі – гэта разнавіднасць дзяржаўнай уласнасці. Такая юрыдычная канструкцыя дазваляе ўраду выключыць любы аб’ект з камунальнай уласнасці і перадаць яго іншаму ўласніку.

Такім чынам, толькі выбары старшыні выканкама не даюць мясцовым уладам фінансава-эканамічную самастойнасць. Яны застаюцца залежнымі.


EUROBELARUS.INFO

► Толькі выбары старшыні выканкама не даюць мясцовым уладам фінансава-эканамічную самастойнасць

Дзеючая ў Беларусі мадэль кіравання на мясцовым узроўні – гэта складаная, трохузроўневая шматфункцыянальная сістэма органаў дзяржаўнай улады. Яна жорстка цэнтралізаваная, іерархічная і максімальна рэгламентаваная і дзейнічаючая, у першую чаргу, у інтарэсах дзяржавы.

Укараненне ў гэтую сістэму выбарнага старшыні выканкама, па сутнасці, нічога не зменіць. Неабходны больш глыбокія змены.

У гэтым плане існуюць, як мінімум, дзве небяспекі.

Першая: людзі, даверыўшыся салодкім абяцанням, умела пабудаванай кампаніі і асабістаму абаянню кандыдата, абяруць кіраўніком чалавека, для якога прыярытэтным будзе свая кішэня, а не патрэбы людзей.

Старшыня выканкама валодае вялікімі паўнамоцтвамі, а стрыманняў і процівагаў, якія дазваляюць эфектыўна змагацца з карупцыяй, і сёння недастаткова. Пры ўвядзенні прамых выбараў старшыняў выканкамаў існуючых стрыманняў і процівагаў стане яшчэ менш.

Наступствы прагназавальныя, і далёка не факт, што ўдасца вярнуць у камунальную ўласнасць тое, што будзе «распілавана» па карупцыйных схемах.

Другая небяспека: людзі абралі сумленнага, прыстойнага і дбаюць пра інтарэсы кіраўніка. Але каманда яму дастанецца старая – са сваімі усталяванымі маральнымі прынцыпамі, стылем кіравання і сувязямі па прынцыпе «ты мне – я табе».

Для таго каб змяніць існуючую сітуацыю, можа не хапіць як духу, так і часу. Той, хто ўсё ж такі зоймецца гэтай працай, рызыкуе быць «падстаўленым» сваімі ж супрацоўнікамі і апынуцца ў месцах не гэтак аддаленых. Ды і не ўсім прадстаўнікам бізнесу такія дзеянні спадабаюцца...

**Міраслаў КОБАСА**

# Народ гаворыць!

**На тэму выбарнасці мэраў свае меркаванні выказалі і простыя людзі (на форуме «Народнай праграмы», у мэйлах да каардынатараў, падчас вулічных відэаапытанняў, якія выкладаюцца на сайце ініцыятывы). Меркаванні з рознай ступенню абгрунтаванасці і эмацыйнасці:**

● *Нужно вернуться к Конституции-1994: она была демократическая, проанализированная международными экспертами и признанная во всем мире.*

*Тем не менее, и в нее необходимо вносить изменения.*

*В частности, в раздел о президентской власти, ограничив ее в пользу Совета министров. Следует изменить систему выборов, перейдя сначала к смешанной (пропорционально-мажоритарной) системе. Обязательно должна быть прописана выборность местных властей. Иной вопрос: прямые это будут выборы или нет.*

*Местные власти должны следовать букве закона, а не подчиняться только лишь назначившему их президенту. Они должны служить народу и быть ответственными перед ним. Сейчас они от народа не зависят.*

Працяг на с. 7

# Як паправіць Канстытуцыю?

**Прапануем таксама вашай ўвазе артыкул вядомага юрыста, былого суддзі Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова ў газеце «Наша ніва», прысвечаны пытанню рэформы мясцовага кіравання.**

> ► Аднаўленне Канстытуцыі 1994 г. прадугледжвае аднаўленне мясцовых саветаў дэпутатаў, іх выканкамаў, органаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання.

У спадчыну ад савецкага мінулага ў Беларусі засталася сістэма мясцовых саветаў дэпутатаў як прадстаўнічая ўлада на мясцовым узроўні. Традыцыйна мясцовыя саветы дэпутатаў мелі мала правоў. Адно з іх – фармаванне адпаведных выканаўча-распарадчых органаў (выканкамаў).

Аднак за часам кіравання А. Лукашэнкі мясцовыя саветы дэпутатаў былі пазбаўленыя гэтага права. Шляхам унясення зменаў і дапаўненняў у Закон «Аб мясцовым кіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь» ад 20 лютага 1991 г., а таксама шляхам выдання шэрагу прэзідэнцкіх указаў (ад 19 верасня 1995 г. №383 «Аб правядзенні рэформы органаў мясцовага кіравання і самакіравання»; ад 27 лістапада 1995 г. №481 «Аб зацверджанні прыкладнай структуры мясцовых адміністрацый у раёнах гарадоў»; ад 30 лістапада 1995 г. №485 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Часовае палажэнне аб мясцовай адміністрацыі») А. Лукашэнка, па сутнасці, скасаваў сістэму мясцовага самакіравання і стварыў замест яе так званую «прэзідэнцкую вертыкаль».

Згодна з гэтай мадэллю кіраўнік дзяржавы прызначае кандыдатуры старшыняў выканкамаў абласнога звяна (Мінскага гарвыканкама) і дае згоду (фактычна зацвярджае) старшыняў раённых (гарадскіх) выканкамаў (а на практыцы – і іх намеснікаў). У абласных цэнтрах і горадзе Мінску замест раённых саветаў дэпутатаў і іх выканкамаў былі ўтвораныя раённыя адміністрацыі, якія наўпрост падпарадкоўваюцца адміністрацыі прэзідэнта.

У цяперашні час мясцовае самакіраванне ў Беларусі як рэальная ўлада мясцовай супольнасці адсутнічае, хоць фармальна саветы дэпутатаў захаваліся. Пры гэтым дзейнічае Закон «Аб мясцовым кіраванні і мясцовым самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» (у рэдакцыі ад 4 студзеня 2010 г.).

Аднаўленне Канстытуцыі 1994 г. прадугледжвае аднаўленне мясцовых саветаў дэпутатаў, іх выканкамаў, органаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, сходаў і іншых формаў непасрэднага ўдзелу грамадзян у дзяржаўных і грамадскіх справах (арт.117).

Ці варта ў новых умовах рабіць захады па замене гэтай сістэмы?

Уяўляецца, што спяшацца з рашэннем дадзенага пытання не варта.

**Працяг на с. 8**

# Народ гаворыць! (працяг)

**Пачатак на с.6**

● *Только при выборности местных властей наконец на самом деле заработает вводная часть Конституции, в которой говорится, что источником власти в Беларуси является народ.*

● *Выборы мэра – пустая трата времени, денег и сил. При такой сильной центральной власти, такие выборы – формальность. Если ей (власти) понадобится, «шапки» полетят независимо от народа*

● *Зачем нужны вообще эти меры? Воровать? Хватает и так ворья!*

● *Мэры гарадоў павінны выбірацца напрамую народам. Але пакуль ранавата. Таму што палітычная культура не тая – ні зверху, ні знізу. Але мы да гэтага прыйдзем пасля пераходу да парламенцкай рэспублікі. Спадзяюся!*

● *Безумоўна, пытанне выбарнасці мэраў нельга разглядаць асобна ад вырашэння праблемы з паўнамоцтвамі прэзідэнта і мясцовага самакіравання. Уладам і цяпер раз плюнуць арганізаваць выбары кіраўнікоў абл- і гарвыканкамаў з загадзя вядомым вынікам і захаваннем падпарадкаванасці мэраў кіраўніку краіны.*

● *Патрэбна, каб Саветы дэпутатаў былі надзеленыя большымі паўнамоцтвамі, каб яны на месцах прызначалі выканаўчую ўладу.*

● *Так, як гэта ёсць у развітых еўрапейскіх краінах.*

*А з гэтага вынікае паўнавартасная рэформа сістэмы мясцовага самакіравання.*

*Пытанне для рэферэндума складанае, але прэцэдэнты каардынальных зменаў у Канстытуцыі ўжо былі.*

● *Источник власти ведь народ, поэтому должны быть выборы мэра! Фальсифицируют и их? Пожалуй! Но, быть может, на выборах мэров появлялись бы новые лидеры-хозяйственники.*

● *Чаму ж яны, лідары гэтыя, не з'яўляюцца падчас парламенцкіх выбараў? Але я таксама за выбары мясцовых кіраўнікоў (войтаў, старастаў і так далей), бо гэта падвышае палітычную культуру насельніцтва, персанальную адказнасць за сітуацыю ў сваім рэгіёне, патрыятызм лакальны, калі хочаце...*



# Паправіць Канстытуцыю

Пачатак на с.7

Тым больш што папярэдне неабходна абмеркаваць пытанне пра рэформу адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання Беларусі.

З улікам неадназначнасці вырашэння гэтых пытанняў прапануецца захаваць ранейшую рэдакцыю часткі «Мясцовае кіраванне і самакіраванне», зрабіўшы пры гэтым некалькі ўдакладненняў.

Першае: змяніць назву раздзелу. З улікам еўрапейскіх традыцый і палажэнняў Еўрапейскай хартыі аб мясцовым самакіраванні, прынятай Радай Еўропы 15 кастрычніка 1985, яго прапануецца назваць «Мясцовае самакіраванне».

Другое: унесці большую дакладнасць у адносіны мясцовых саветаў дэпутатаў як прадстаўнічых органаў і мясцовых выканкамаў як выканаўчых і распарадчых органаў. У сувязі з гэтым прапануецца артыкул 120, якая замацоўвае выключныя паўнамоцтвы мясцовых саветаў дэпутатаў, дапоўніць нормай аб тым, што мясцовыя саветы дэпутатаў фармуюць адпаведныя выканаўчыя і распарадчыя органы.

Трэцяе: у артыкуле 122 выключыць указанне на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які надзяляўся правам адмяняць рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў у выпадку іх неадпаведнасці заканадаўству.

Акрамя таго, на падставе Канстытуцыі 1994 г. неабходна аднавіць дзеянне Закона «Аб мясцовым кіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь» 1991 г., унёсшы ў яго адпаведныя змены і дапаўненні.

# Як працуе мясцовая ўлада ў Беларусі?

**Прапануем кароткую афіцыйную інфармацыю пра тое, як уладкавана ў Беларусі сістэма мясцовага кіравання і самакіравання, з Нацыянальнага прававога інтэрнэт-парталу. Звернем увагу на даўжыню спісаў паўнамоцтваў Саветаў дэпутатаў і выканкамаў.**

Система местного самоуправления включает:

- местные Советы депутатов;
- органы территориального общественного самоуправления:
- советы и комитеты:
  - микрорайонов;
  - жилищных комплексов;
  - домовые;
  - уличные;
  - квартальные;
  - поселковые;
  - сельские комитеты;
- другие органы, в том числе единоличные.

Местное самоуправление осуществляется в границах административно-территориальных и территориальных единиц.

К исключительной компетенции местных Советов депутатов относятся:

- утверждение программ экономического и социального развития, местных бюджетов и отчетов об их исполнении;
- установление в соответствии с законом местных налогов и сборов;
- определение в пределах, установленных законом, порядка управления и распоряжения коммунальной собственностью;
- назначение местных референдумов.

Исполнительным и распорядительным органом на территории области, района, города, поселка, сельсовета является исполнительный комитет с правами юридического лица (исполком).

В компетенцию исполнительного комитета входит:

- разработка и внесение для утверждения в Совет схемы управления местным хозяйством и коммунальной собственностью, а также предложений по организации охраны общественного порядка;
- разработка и внесение для утверждения в Совет проектов программ экономического и социального развития, местного бюджета, представление Совету отчетов об их выполнении;
- обеспечение на соответствующей территории соблюдения:
  - Конституции Республики Беларусь;
  - законов Республики Беларусь;
  - актов Президента Республики Беларусь;
  - решений Совета и вышестоящих государственных органов, принятых в пределах их компетенции;
- организация получения доходов местным бюджетом и их использования по целевому назначению;
- принятие решения о выпуске местных ценных бумаг и проведении аукционов;
- распоряжение коммунальной собственностью административно-территориальной единицы в порядке, установленном Советом;
- принятие решений о создании, реорганизации и ликвидации предприятий, организаций, учреждений и объединений коммунальной собственности;
- согласие на размещение на подведомственной ему территории предприятий, организаций, учреждений и объединений, не находящихся в коммунальной собственности соответствующей административно-территориальной единицы;
- осуществление в порядке, установленном законодательством Республики Беларусь, контроля на подведомственной территории за использованием коммунальной собственности;
- решение в соответствии с законодательством Республики Беларусь вопросов землеустройства и землепользования.

Газета выдаецца Рухам "За Свабоду". Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 17.12.2013 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: 2808863, е-пошта: info@рух.by